www.nv-online.info

№ 50 (4097)

1 ліпеня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## Нізкі паклон

*усім-усім, хто вырашыў застацца з намі, народавольцамі,*
*і ў другой палове 2016 года!*
*Рады будзем, калі за ліпень да нас далучацца новыя сябры!*
*Падпісацца на "Народную Волю" можна ў паштовых аддзяленнях*
*і ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку". Каб атрымліваць газету*
*з 1 жніўня, трэба зрабіць гэта да 27 ліпеня.*

**Вы – з "Народнай Воляй",**
**"Народная Воля" – з Вамі!**

БЕЗ РЭТУШИ



Валерий КАРБАЛЕВИЧ, специально для «Народной Воли»

## Ці пачуюць Сямёна Шапіру?

Старшыня Мінскага аблвыканкама Сямён Шапіра 26 чэрвеня ў інтэрв'ю праграме «Контуры» тэлеканала АНТ узняў вельмі цікавую тэму. Ён паскардзіўся, што сілавыя структуры перашкаджаюць працы гаспадарчых суб'ектаў. Паводле яго слоў, праваахоўныя органы пераследуюць кіраўнікоў паспяховых гаспадарак. *«Эканамічны эфект ужо не разглядаецца многімі праваахоўнымі органамі, а разглядаецца механізм прыняцця рашэння. Я ведаю выпадкі, калі кіраўнік гаспадаркі прадаваў прадукцыю па сабекошце, разумеючы, што заўтра ўвогуле яе не прадасць, а супраць яго ўзбуджаюць крымінальную справу. Аналагічных прыкладаў вельмі шмат»*, – падкрэсліў Шапіра. Ён нагадаў, што нядаўна пра гэта дакладваў кіраўніку дзяржавы. Кіраўнік Мінскай вобласці прывёў прыклад з адным сельгаспрадпрыемствам, якое з новым кіраўніком пачало добра працаваць. І вось што было далей. *«У адзін дзень выязджае туды дзесяць ці адзінаццаць супрацоўнікаў у пагонах, адбіраюць заробак, пачынаюць праводзіць праверкі, пералічваць жывёлу. Ён толькі год адпрацаваў, на 140% павялічыў аб'ём вытворчасці, выдатныя паказчыкі, стабілізаваў калектыў. А ўжо ходзіць і дае тлумачэнні. І такіх прыкладаў магу называць дзясяткі»*.

Сітуацыя не новая, праблема даўняя. Напрыклад, у верасні 2015 года адбылася адмысловая нарада ў А.Лукашэнкі на такую ж тэму. Падставай стала скарга дырэктара Мінскага трактарнага завода Фёдара Дамаценкі, які звярнуўся да кіраўніка дзяржавы з просьбай аб абароне ад сілавікоў і кантралёраў. А.Лукашэнка, адкрываючы нараду, заявіў: *«Я запрасіў сюды сілавікоў для таго, каб разабрацца, у чым супрацьдзеянне ў працы МТЗ з боку пракуратуры, МУС, КДБ, КДК»*. Звярніце ўвагу: Трактарны завод атакавалі адразу чатыры праваахоўныя органы. Разборка закончылася тым, што пасля дэталёвага аналізу аказалася: сілавыя структуры і кантралёры ўсё ж маюць рацыю.

Тое, пра што казалі і С.Шапіра, і Ф.Дамаценка, хоць іх довады ў пэўнай ступені і разыходзяцца, не нейкая анамалія, а сутнасць дзейнай сістэмы. Гіпертрафіраваная роля кантралюючых органаў – неабходны элемент створанай у краіне сацыяльнай мадэлі. Без іх яна існаваць не можа. Ва ўмовах слабых эканамічных стымулаў у гаспадарцы, вялізнай ролі дзяржавы ва ўсіх сферах сістэма комплекснага кантролю павінна падтрымліваць працаздольнасць і жыццядзейнасць усіх дзяржаўных інстытутаў і перш за ўсё прымусіць працаваць эканоміку. Без іх шчыравання сістэма развалілася б, загразла ва ўсеагульнай карупцыі. Бо калі адсутнічае пернік, то патрэбны моцны бізун. Інакш сістэма працаваць не будзе. Таму ў краіне дзейнічае каля паўтара дзясятка структур з кантрольнай функцыяй. А.Лукашэнка ператварыў кантрольныя органы ў апорную канструкцыю дзяржаўнага кіравання, важны фактар эканамічнага і сацыяльна-палітычнага жыцця краіны. Значэнне чыноўніка-кантралёра аказалася вышэй дырэктара ці чыноўніка-менеджара.

Але парадокс сітуацыі ў тым, што, з іншага боку, прэсінг сілавых структур стаў тормазам эканамічнага развіцця. Добрай ілюстрацыяй гэтага з'яўляецца судовы працэс над дырэктаркай Віцебскай птушкафабрыкі Ганнай Шарэйка і яе атачэннем. Ніякай матэрыяльнай шкоды ў дзейнасці дырэктара праваахоўныя органы фактычна не знайшлі, але працу фабрыкі паралізавалі, з прыбытковай яна стала стратнай. А людзі два гады прасядзелі ў турме. Каб і хацеў наглядна прадэманстраваць заганнасць і абсурднасць існуючай сістэмы, дык лепшай ілюстрацыі не прыдумаеш.

12 чэрвеня старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Леанід Анфімаў у інтэрв'ю той жа тэлепраграме «Контуры» апраўдваўся за сваю дзейнасць. Тое, што праверкі перашкаджаюць сёння працаваць бізнесу, ён фактычна не адмаўляў. І адзначыў, што ўжо падрыхтаваны і хутка будуць унесены на разгляд прэзідэнта прапановы па ўпарадкаванні кантрольнай дзейнасці ў краіне. У іх утрымліваюцца меры, накіраваныя на ліквідацыю дубліравання і скарачэння колькасці нічым не абгрунтаваных праверак. «Сістэма будзе прыведзена ў нармальны чалавечы стан. І кантролю, і нагляду ў нашай краіне будзе нададзены чалавечы твар, чалавечае аблічча», – адзначыў Анфімаў.

Не першы раз робяцца захады, каб упарадкаваць працу кантрольных органаў. Ужо прымаліся адпаведныя прэзідэнцкія ўказы дзеля скарачэння колькасці праверак. Калісьці пры Адміністрацыі прэзідэнта быў створаны Савет па каардынацыі дзейнасці гэтых структур. І вось рыхтуецца новы заканадаўчы акт, які павінен неяк урэгуляваць працу кантралёраў.

На добры розум, цяпер, падчас крызісу, калі ўлады не могуць забяспечыць насельніцтву былы ўзровень дабрабыту, варта было б пайсці на аслабленне жорсткага кантролю. Маўляў, выжывайце, людзі, хто як можа, мы даём вам волю.

Але, думаю, усе гэтыя спадзяванні, як і высілкі асобных чыноўнікаў, марныя. Не толькі таму, што без жорсткага кантролю і бязмежжа кантрольных органаў сістэма працаваць не зможа. Цяпер, падчас крызісу, калі ўладам востра патрэбны грошы, сілавыя структуры, не выключана, атрымалі заданне іх адшукаць. Ці не таму яны ідуць ў тыя арганізацыі і прадпрыемствы (як дзяржаўныя, так і прыватныя), якія яшчэ працуюць з прыбыткам? Існуючую сістэму прывесці ў «нармальны чалавечы стан» немагчыма. Таму, на мой погляд, праблема, якую ўзняў Шапіра, у межах існуючай сістэмы не мае рашэння.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ




## Бывайце, мільёны!

*Учора карэспандэнт "Народнай Волі" пацікавіўся, як сталіца падрыхтавалася да дэнамінацыі.*

Тэма дэнамінацыі ў апошнія дні – практычна ўва ўсіх на слыху. Калі з'явяцца першыя новыя грошы? Пазбаўляцца ці не пазбаўляцца да 1 ліпеня ад старых? Як разабрацца ў новых рублях-капейках, каб нічога не наблытаць у магазіне? Нягледзячы на тое, што Нацбанк, здаецца, правёў тлумачальную работу, людзі па-ранейшаму знаходзіліся ў трывожным чаканні. Многія ўжо проста "прыраслі" да сваіх соцень тысяч і мільёнаў.

Дарэчы, напярэдадні намеснік міністра гандлю Эдвард Матуліс заявіў, што "1 ліпеня мы яшчэ не ўбачым у гандлёвых аб'ектах новых грошай, а 2-га – напэўна, так".

А Нацбанк паведаміў: 1 ліпеня каля 30% банкаматаў будуць загружаны новымі грашыма, і пачынаючы з 1 ліпеня правядзенне банкаўскіх аперацый, уключаючы валютна-абменныя, будзе ажыццяўляцца з выкарыстаннем грашовай наяўнасці ўзору 2009 года разам з грашовай наяўнасцю ўзору 2000 года.

Тым не менш інфармацыя пра тое, што 30 чэрвеня ў рабоце банкаматаў магчымы збоі, не пакінула людзей раўнадушнымі. Ужо 29 чэрвеня народ вырашыў не выпрабоўваць лёс і тэхнічныя магчымасці беларускай банкаўскай сістэмы, а таму ля банкаматаў практычна па ўсім горадзе з'явіліся чэргі, якія перыядычна то змяншаліся, то павялічваліся.

Пенсіянерка **Ганна Васільеўна Вайтовіч,** напрыклад, вырашыла перавесці ўсе беларускія грошы ў амерыканскую валюту і тлумачыць – чаму.

– Я за сваё жыццё ўжо досыць "наелася" ўсялякіх фінансавых рэформаў, – шчыра прызнаецца яна. – "Паўлаўская" грашовая рэформа, дэвальвацыя Пракаповіча, некалькі дэнамінацый... І заўсёды пры гэтым нешта страчвала. Таму зараз, хаця і супакойваюць, што ўсё, маўляў, будзе нармальна, але я давяраю больш сабе і долару. Можа, у мяне і невялікія зберажэнні, але лепш няхай яны ляжаць у валюце. А абмяняць іх заўсёды змагу.

А вось учора ля банкаматаў ужо былі цішыня і спакой. Відаць, усе, хто хацеў зняць грошы з рахункаў, зрабілі гэта загадзя. Праўда, не ўсе банкаматы і працавалі. Напрыклад, на экране тэрмінала "Беларусбанка" ў сталічным ГУМе высвечваўся надпіс: "Выбачайце! Банкамат часова не працуе".

Дарэчы, падманвалі грамадзян некаторыя магазіны, якія змяшчалі абвесткі, што ў сувязі з дэнамінацыяй *"тэрміналы з банкаўскімі карткамі на касах у перыяд з 30 чэрвеня па 2 ліпеня працаваць не будуць"*, а таму зараней трэба паклапаціцца пра тое, каб мець наяўныя грошы. Мінгандлю затым абверг гэтую інфармацыю: *"Зафіксаваны асобныя факты ўвядзення ў зман насельніцтва арганізацыямі, якія ажыццяўляюць прыём плацяжоў за тавары і паслугі з дапамогай выкарыстання банкаўскіх пластыкавых картак. З 8 гадзін раніцы 1 ліпеня плацежныя тэрміналы ў гандлі будуць працаваць у штатным рэжыме"*.

Спакойна працавалі за дзень да дэнамінацыі і паштовыя аддзяленні, хаця 1 ліпеня паслугі кліентам на пошце ў аперацыйных вокнах прадастаўляцца не будуць.

– Што тычыцца пунктаў па прыёме і выдачы паштовых адпраўленняў, то выдаваць будуць толькі пасылкі без накладзеных плацяжоў і без налічаных мытных пошлін, – дадалі на "Белпошце". – Астатнім кліентам лепш звярнуцца ў аддзяленні паштовай сувязі 2 ліпеня.

Да слова, супрацоўнікі паштовых аддзяленняў распавялі, што пенсіі ў ліпені многія атрымаюць ужо новымі грашыма.

– Беларусы многае перажылі, да ўсялякага ім даводзілася прыстасоўвацца, таму з часам прыстасуюцца і да чарговых новых грошай, – кажа адзін з наведвальнікаў пошты. – Шкада адно – мільянерамі мы ўжо больш не будзем...

**Алесь СІВЫ.**

ДАРЭЧЫ

*У першыя дні пасля дэнамінацыі кантакт-цэнтр Нацыянальнага банка будзе працаваць у спецыяльным рэжыме, паведаміла ўпраўленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў рэгулятара.*

*Атрымаць неабходныя кансультацыі можна будзе па тэлефоне ў Мінску **306-00-02** з 9.00 да 17.00 як у пятніцу 1 ліпеня, так і ў выхадныя дні – 2 і 3 ліпеня.*

*Акрамя таго, у Нацыянальны банк можна звярнуцца з дапамогай спецыяльнай электроннай формы, размешчанай на афіцыйным сайце ў рубрыцы «Дэнамінацыя-2016».*

ЗАПРАШЭННЕ

## Вас чакаюць вясёлыя Аўцюкі




8–9 ліпеня 2016 года адбудзецца восьмы Усебеларускі фестываль народнага гумару ў Аўцюках, што ў Калінкавіцкім раёне. Пра гэта велічнае свята хораша сказаў у свой час паэт Генадзь Бураўкін:

*Шмат я ездзіў і крочыў,*
*У аб'езд і нацянькі,*
*І шчаслівы, што аднойчы*
*Завітаў у Аўцюкі.*

Фестываль народнага гумару ладзяць Міністэрства культуры Беларусі, Гомельскі аблвыканкам, Калінкавіцкі райвыканкам.

Сёлетні фестываль ізноў збярэ лепшых гумарыстаў з усяе Беларусі. Прыедуць дэлегацыі з абласцей, г.Мінска і асобныя калектывы з многіх вёсак і гарадоў, дзе шануюць дасціпныя жарты, анекдоты, прыпеўкі, гумарэскі. Менавіта гэтыя жанры народнага гумару і стануць асноўнымі намінантамі свята.

Фестываль пачнецца на раздарожжы Малых і Вялікіх Аўцюкоў. Там мясцовыя майстры збудавалі Лаву прымірэння, а каля яе ўстанавілі помнік Каласку і Калінцы. Іх лозунг-заклік выдае ўсю сутнасць і адметнасць аптымізму аўцюкоўцаў: "Калі хочаш весела жыць, не лянуйся Калінцы ружы дарыць".

У першы дзень свята ўдзельнікі фестывалю пакажуць сваё адпрыроднае гумарыстычнае майстэрства ў многіх вёсках Калінкавіцкага раёна.

Другі дзень фестывалю пройдзе на Цэнтральнай плошчы райцэнтра. Не прапусціце вуліцу падворкаў, дзе вас сустрэнуць дасціпныя аўцюкоўцы, а таксама вясёлыя, мудрыя дэлегацыі жартаўнікоў з усіх сельсаветаў раёна. Абавязкова паглядзіце конкурс прыгажосці "Міс Аўцюкі" і "Алімпійскія аўцюкоўскія гульні".

На галоўнай сцэне гумарысты пакажуць свае конкурсныя праграмы. Журы вызначыць пераможцаў. А затым прынародна ўганаруем лаўрэатаў фестывалю. І на ўсё наваколле прагучыць гала-канцэрт. Свята гумару аздобіць сваёй праграмай славуты ансамбль "Свята" з Мінска.

Будзе весела, напеўна, узнёсла, акрылена, а гэта ўсё тое, што стварае добры настрой, а ён у сваю чаргу становіча ўплывае на наш аптымізм, здароўе, лёс. Дык гайда ў Аўцюкі па мех смеху! Толькі, цур, помніце: пропуск на фестываль – праз аўцюкоўскую мытню. А там запатрабуюць ад вас арыгінальны жарт. Не забудзьцеся прыхапіць яго на свята гумару.

**Уладзімір ЛІПСКІ,**
**пісьменнік, старшыня журы Аўцюкоўскага фестывалю народнага гумару, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.**

(Працяг тэмы на 8-й стар).

ПРАГНОЗЫ

## Азаранка не выступіць на Алімпіядзе?

*Зараз беларуская тэнісістка прапускае Уімблдонскі турнір.*

У замежных СМІ з'явілася паведамленне, што траўма калена, з-за якой Вікторыя Азаранка не бярэ ўдзел у Уімблдоне, можа перашкодзіць беларускай спартсменцы выступіць на Алімпіядзе ў Рыа.

Нагадаем, Віка стала алімпійскай чэмпіёнкай Гульняў-2012 у міксце з Максімам Мірным. Спаборніцтвы па тэнісе на Алімпіядзе-2016 у Бразіліі пройдуць з 6 па 14 жніўня.

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ

## Хотите иметь хорошую пенсию – собирайте деньги заранее!

Белорусские пенсионеры не могут похвастаться большим размером пенсионного пособия. Средняя трудовая пенсия по возрасту составляет 2,9 миллиона. Но сегодня можно самим позаботиться о том, чтобы будущая пенсия была более солидной.

**– Что такое добровольное страхование дополнительной пенсии?**

**– На какую максимальную пенсию можно рассчитывать, начав откладывать деньги сейчас?**

**– Какой минимум можно перечислять страховым компаниям?**

**– Какими налоговыми льготами может воспользоваться владелец договора страхования дополнительной пенсии?**

**– Можно ли снять все накопленные на старость деньги сразу, выйдя на пенсию?**

На эти и другие вопросы в ходе «Прямой линии» в редакции «Народной Воли» ответит заместитель директора унитарного страхового предприятия «ПриорЛайф» «Приорбанк» ОАО **Вера Леонидовна КОРОЛЕВА.**

**Звоните во вторник, 5 июля, с 11.00 до 12.30 по телефону 328-68-41. Присылайте свои вопросы заранее по электронной почте nvonlineinfo@gmail.com с пометкой «Прямая линия».**

ЧУЛІ?

## Кірыл Руды з'язджае ў Кітай

Доктар эканамічных навук, памочнік прэзідэнта па эканамічных пытаннях Кірыл Руды сыходзіць з Адміністрацыі прэзідэнта. Пра тое, што ён з'едзе працаваць паслом у Кітай, паведамілі БелаПАН некалькі крыніц, і гэтую інфармацыю пацвердзілі ў органах дзяржкіравання.



Фота Сяргея ГУДЗІЛІНА.

У Адміністрацыі прэзідэнта Руды адпрацаваў тры гады.

Кірыл Руды – прыхільнік ліберальных рэформаў.

На працу ў Адміністрацыю ён прыйшоў з дыпламатычнай службы, ягоным месцам работы быў таксама Пекін.

ВІНШУЕМ!

## Доктар-анколаг стаў ганаровым брэстаўчанінам

Рашэннем Брэсцкага гарадскога Савета дэпутатаў Ганаровым грамадзянінам горада стаў **Канстанцін Шэлепень**. Ураджэнец Баранавічаў, ён скончыў сталічны Медыцынскі інстытут, абараніў кандыдацкую дысертацыю. Сваю кар'еру пачынаў у Баранавіцкім анкалагічным дыспансеры. З 1989 года з'яўляецца галоўным урачом Брэсцкага абласнога анкалагічнага дыспансера.

**Вадзім БРОННІКАЎ.**

